ле бітвы пакрыто чысьленымі трупамі расейцоў. У начы шмат дае адбіты патрулі ворагоў.

*Фронт эрц-гэрцога Іозефа*: У усходніх карпатах нямецкие егры пры Комане, на поўначы ад Залатой Быстрыцы, прывялі некалькі расейцоў і кулемёт. Між далінамі Касіну і Сусіта расейцы і румыны далей штурмавалі вялікімі массамі здабытые ў іх за апошние дні горные пазыціі. На адной выршыне ім удалося ўмацавацца. У-ва ўсіх іншых мейсцох яны крывава адбіты.

*Фронт фэльдмаршалка Макензэна*: У балоцістай даліне між Браілам і Галяцам, пры Вадэні, пярэдние турэцкіе варты перад перэважываючымі сілами ворагоў адышлі па дадзенаму загаду на главные пазыціі. Наступаўшые на ля Буртэа расейскіе атрады задзержаны агнём нашай артылерыі.

*Македонскі фронт*: Без ніякіх прыпадкоў.

За месяц сьнежань мы утрацілі 17 самалётоў. Нашы ворагі утрацілі іх 66; у тым ліку ў бітвах на паветры 48, збіты агнём з зямлі 16, прымушэны спусьціцца на зямлю 2. З гэтаго числа 22 папалі ў нашы рукі, зваліліся на зямлю за фронтам ворагоў—44.

## Аустр ыяцкае апавешчэньне

ВЕНА 15.I. Усходні тэатр: (гл. нямецкае апав.).

**Італьянскі тэатр**: На фронці Доломітоў нашы войскі пры Вялікім Лаязної ўзарвалі ў тую ноч скалу між нашымі і варожымі пазыціямі. Цяпер ваюючые стороны раздзеляе шырокі яр.

ВЕНА. 16.I.. Усходні тэатр: (гл. ням. апав.).

**Італьянскі тэатр**: На фронці Карсту трывае агонь артылерыі.

ВЕНА 17.I. Усходні тэатр: (гл. нямецк. апав.).

**Італьянскі тэатр**: На плоскагорні Карст і ў даліне Віппаха нанова узняўся агонь артылерыі.

### Вайна на паветры.

БЭРЛІН. Число нямецкіх лятуноў, каторые збілі больш за 4 самалёты ворагоў, дайшло 36. Між імі капітан Бэльке збіў, як вядома, 40, Вінтгэнс—18, Іммэльман і барон ф. Ріхтгофэн—па 15, Франкль—14 і т. д.

### Жаданьне французоў.

ПАРЫЖ. «Echo de Paris» дамагаецца самай энэргічнай падгатоўкі дзеля наступленьня саюзьнікоў. Калі Нямеччына занята ў Румыні, проці яе трэба выступіць на заходнім фронці.

### Пагібель Румыніі.

ЯССЫ. Братіану сказаў у румынскім парлямэнці, што ён не шкадуе ваеннаго выступленьня Румыніі нават і тады, калі-б гэта скончылося разгромам Румыніі. Тады яна памрэць за справедлівую справу.

Такэ Іонэску сказаў: „Калі ў будучыне ўсім румынам суджэно вандраваць па сьвеці і калі старонка абернецца ў руіну,—вайна ўсё-ж такі была патрэбна“.

### Грэцкая трагедія.

ЛОНДОН. «Daily Chron.» даносіць з Эўбэі, што число каралеўскай арміі на острові павялічылося і мае запас страны на некалькі месяцоў. Генэрал Байрос і інные прыслухаючые яму афіцэры—староннікі караля. Арэштованы многа староннікоў Вэнізэлоса.

ЛОНДОН. (В.Т.Б.). «Daily Tel.» даносіць:

Правіцельствы саюзьнікоў дамагаюцца кантролю над почтай і тэлеграфам. Яны жадаюць публічнаго прывітаньня іх флагоў, вызваленьня ўраз жэ староннікоў Вэнізэлоса, здаволеньня пацярпеўшых у часі прыпадкоў 1 і 2 сьнежня, выдаленьня начальнікоў, каторые мелі каманду ў часі гэтых прыпадкоў. Блокада будзе трываць датуль, пакуль усё гэта ня будзе споўнено.

АФІНЫ. Грэцкае правіцельство аддало прэдстаўнікам саюзьнікоў дадатковую ноту, ў каторай прынімае ўвесь саюзьніцкі ультіматум. Выпаўненьне дамаганьнёў саюзьнікоў ураз-жэ началося. Грэцкі пасол вярнуўся на сваё мейсцо.

## Спіс ваенна-палонных з нашаго краю.

**З Вільні і Віленскай губэрні.**

### Табор для ваенна-палонных Sagan.

Коваленко Іван, Дварышчэ.
Логош Васіль, Вільня.
Неведоўскі Павал, Комарцкі.
Суій Васіль, Бор.

### Табор для ваенна-палонных Skalmierschütz.

Лісіца Грыгор, Гнездзік.
Чэботарёнак Аркадій, Грыблі.
Лапка Іван, Бельская.
Болеус Сямён, Чурылово.
Мэльта Васіль, Копеко.
Шапіро Давід, Вільня.
Арановіч Якаў, Смаргонь.
Курыцкі Сямён, Вільня.
Шарог Васіль, Барсукі.
Сухоцкі Стэфан, Вільня.
Бакіноўскі Эдвард, Сьвіркі.
Петрашкевіч Віктор, „
Ярошэвіч Ян, Станкі.
Канавіч Антон, Чэркасы.
Соботкевіч Міхаіл, Каролі.
Міколаюнас Язэп, Дворалічы.
Мішкель Кароль, Зарэччэ.
Зублоўскі Станіслаў, Войтово.
Дымчэвіч Сямён, Поспэры.
Гавіс Бронислаў, Нача.
Лукшыц Андрэй, Пролай.
Татарэліс Якаў, Зубельня.

### Табор для ваенна-палонных Sprottau.

Літвін Віктор, Сьвенцяны.

### Offiziersgefangenenlager Ingolstadt.

Комп. Форт 9.

Паручнік Мешальскі Вальдэмар, Вільня, Судовая, 2.

Комп. Форт 10.

Капітан Якубоўскі Антон, Вільня.
Падпар. Рэут Казімір, „
Унтэрофіц. Шынгель Констанцін, Яшуны.

Комп. Форт Prinz. Carl.

Штабс-кап. Артамонов Павал,
Падпаруч. Беляев Іван,
Капітан Косолапов Пётр,
Паруч. Штакельбэрг Тодар,
„ Вержбіцкі Казімір,
Штабс-капіт. Войткевіч Владыслаў (усе з Вільні).

Ком. Форт Orff.

Аптэкар Товянскі Язэп, Вільня.

Lazarett I, Ingolstadt.

Завадзкі Іван, Вільня.
Мовша Абрамовіч, Смаргонь.

### Табор для ваенна-палонных Ingolstadt.

I Батальён, 1 Комп.

Буйко Вінцэнты, Вільня.
Бусловіч Франц, Кракоўка.
Дубіцкі Віктор, Баяры.
Галка Антон, Хрэнова.
Юхнік Язэп, Лідзкі.
Мілюк Міхаіл, Вільня.
Ужка Пётр, „

I Бат. 3 Комп.

Гаель Владыслаў, Вільня.
Федоровіч Адам, „

I. Bat. Kp. Zw. W. Friedrichshofen.

Базыльян Янкель, Лайбішкі.
Бэркон Абрам, Вільня.
Брэзнікер Абэль, „
Брушынскі Лейба, Шчучын.
Дубрынскі Элья, Ліда.
Фурманскі Хаім, Шчучын.
Гітліч Мордух, Вільня.
Гобэр Ізаак, „
Кановіч Пінкус, Таневічы.
Крынскі Бэрко, Новы Двор.
Левін Сімха, Вільня.
Лідзкі Шэвэль, Эйшышкі.
Медніцкі Эйбэр, Жалудок.
Мурміс Ільля, Сьвенцяны.
Плотнік Абрам, Порубанак.
Рубін Янкель, Вільня.
Сагаловіч Барыс, Гольшаны.
ШВіммэр Саламон, Вільня.
Карась Ізаак, Родінца.

### Табор для ваенна-палонных Friedrichsfeld bei Wesel.

Адамовіч Станіслаў, Н. Тарасоўка.
Анінуцкі Казімір, Малі.
Анушкевіч Іван, Засьценак.
Бабіч Раман, Сьвенцяны.
Банеўскі Пётр, Дворча
Барылов Віктор, Квачы.
Бартусэвіч Іван, Вільня.
Бацэвіч Гіполіт, Турлішка.
Бобрык Фэлікс, Пескі.

(Далей будзе).



Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтво «Гоман». Рэдактар В. Ластоўскі.